*Але!*

# Інстанцыя адпісалася. Парадак?

Закон — ёсць закон! Гэта робіца агульнапрынятай аксіёмай ва ўмовах прававой дзяржавы. Але калі вышэйшыя дзяржаўныя асобы не лічацца з толькі што прынятай Канстытуцыяй, то чаго ж чакаць ад кіраўнікоў ніжэйшага рангу? Верагодна, толькі спаслыкі на прэцэдэнт невыканання законаў. Так нам было і заяўлена яшчэ ў мінулым годзе ў Віцебскім ветэрынарным інстытуце (цяпер ветакадэмія)рэктарам М.С.Жакавым і сёлета пацверджана прарэктарам гэтай ВНУ па вучэбнай рабоце, калі прадстаўнікі гарадской рады ТБМ наведалі інстытут, каб дамовіцца аб супрацоўніцтве і дапамозе ў выкананні Закона аб мовах.

Выкананне і назіранне за выкананнем законаў — справа, як вядома, дзяржаўная. Таму там, дзе кіраўнікі сапраўдныя, то і справа ідзе як мае быць. Калі не — то ўсё наадварот.

Аб тым, як ставіцца гарадское кіраўніцтва Віцебска да выканання Закона аб мовах, гаворыць адказ старшыні гарвыканкама В.Неушава на апошняе пісьмо гарадской рады ТБМ, дзе ставіліся канкрэтныя пытанні, якія патрабуюць і канкрэтнага адказу. Праз месяц з гарвыканкама быў атрыманы адказ па ўзору былых часоў, калі лічылася, што справа зроблена, бо дадзена адпіска.

На ўсе тэмы, што былі закрануты ў пісьме, шмат разоў вяліся размовы з былым старшынёй гарсавета сп.М.Федарчуком, сп.В.Неушавым, яго намесніцай Л.Аленскай. Але зрухаў практычна ніякіх няма, бо да беларускай мовы ў Віцебскага кіраўніцтва адносіны такія ж, як і да дзяржаўных сімвалаў: наш горад на дзяржаўныя святы ўпрыгожваецца чырвонымі сцягамі.

Дасылаю вам копію пісьма гарадской рады ТБМ і адказ — адпіску гарвыканкама.

**В.АРЛОЎ,**
**старшыня Віцебскай гарадской рады ТБМ.**

## *СТАРШЫНІ ВІЦЕБСКАГА ГАРВЫКАНКАМА СП. В. НЕУШАВУ*

Шаноўны Валеры Мікалаевіч, гарадская рада ТБМ звяртае Вашу ўвагу на тое, што Закон аб мовах, які дзейнічае з 1 верасня 1990 г., у нашым горадзе выконваецца дрэнна.

У друку практычна ігнаруецца выкананне артыкула 29, вельмі кепска выконваюцца патрабаванні артыкулаў 31,32.

Мы вымушаны нагадаць і пра тое, што праз тры з паловай гады пасля ўвядзення «Закона аб мовах» артыкулы 4, 7, 12 далёкія ад выканання гэтаксама, як і ў 1990 годзе, а на падыходзе тэрміны выканання артыкулаў 8,10,14.

Афармленне новых крам («Лучёса», «Торговый дом Витязь», «Орион», «Винтур», кіёскі каля крамы «Веды», «Меркурий») па-ранейшаму робіцца на рускай мове. Тое самае мы бачым у рэкламных размалёўках на трамваях і тралейбусах. У гарадскім транспарце беларуская мова не гучыць. Гэта толькі асобныя і далёка не ўсе прыклады.

Мы лічым не залішняе нагадаць таксама, што на Віцебшчыне (згодна з перапісам 1989 г.) беларусаў жыве 80 працэнтаў, у сельскай мясцовасці — 87 працэнтаў, у Віцебску — каля 70 працэнтаў; беларускую мову лічаць роднай адпаведна 76,8, 95, 50 працэнтаў.

На наша глыбокае перакананне, у такім беларускім культурным і адміністрацыйным цэнтры, якім з»яўляецца Віцебск, запавольванне пашырэння сферы ўжывання беларускай мовы, асабліва ў перыяд станаўлення незалежнай дзяржавы, недапушчальнае. Бо згаданае запавольванне адбываецца не па нейкіх аб'ектыўных прычынах, а свядома прытармажваецца. Негатыўнае, грэблівае стаўленне ўплывовай часткі кіраўніцтва горада да Закона аб мовах справакавала ў свой час ворагаў усяго беларускага на рэгулярнае зняважанне беларусаў, іх культуры, гісторыі, нашай з вамі дзяржавы. Зразумела, што пра ўсё гэта мы вымушаны нагадаць таму, што задавальненне адвечнага права на сваю мову даўно стала паказчыкам стаўлення да незалежнасці Беларусі і існавання беларусаў як этнасу.

У сувязі з прыняццем новай Канстытуцыі, дзе ў чарговы раз зацверджаны прыярытэт беларускай мовы ў дзяржаўным будаўніцтве, мы спадзяёмся, што і гарадскія ўлады ўрэшце ўсвядомяць гэты неаспрэчны факт.

Для рэалізацыі Закона аб мовах неабходны дзяржаўны кантроль за яго выкананнем. З Вашым папярэднікам і з Вамі вяліся размовы, і была прынцыповая згода аб утварэнні пасады ці ўскладанні абавязкаў на аднаго з адданых беларускасці супрацоўнікаў гарвыканкама, які павінен сачыць за дакладным выкананнем Закона аб мовах. Просім Вас зрабіць пісьмовае распараджэнне галоўнаму мастаку горада, згодна з якім афармленне горада і рэклама выконвалася б па-беларуску ў адпаведнасці з Законам і «Дзяржаўнай праграмай па развіццю беларускай і іншых моў» ад 25.09.90 г.

Аб апошнім паведаміце нам, калі ласка, на адрас:

Віцебскі тэхналагічны ін-т, каф. «Дэталі машын», Арлову.

Нагадваем Вам таксама, што ТБМ не можа нармальна працаваць таму, што да гэтага часу (нягледзячы на неадназовыя абяцанкі і існаванне пастановы СМ № 56 ад 19.02.91 г.) не мае ніякага прытулку.

**Па даручэнню**
**Віцебскай гарадской**
**рады ТБМ імя Ф.Скарыны**
**В.АРЛОЎ.**

## *ВІЦЕБСКІ ТЭХНАЛАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ ЛЁГКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ СП. АРЛОВУ В. М.*

**Паважаны**
**Валянцін Мікалаевіч!**

Выканкам Віцебскага гарсавета, так як і Вы, усклапочаны тым, што сфера ўжывання беларускай мовы ў сучасны момант мае негатыўную з»яву.

Сёння, калі ўся ўвага сканцэнтравана на эканамічным становішчы ў горадзе, барацьбе са злачыннасцю, беспрацоўем і г.д., развіццё беларускай мовы не набыло поўнага размаху.

Вырашэнне гэтай праблемы, як Вы добра ведаеце, патрабуе часу і жадання кожнага жыхара горада.

З свайго боку выканкам гарсавета зноў акцэнтаваў увагу гарадскіх упраўленняў і аддзелаў аб абавязковым выкананні патрабаванняў Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах». Перакананы, што з часам намаганнем грамадскіх арганізацый і выканкамам мы рэшым гэтую праблему, і беларуская мова стане зычней гучаць у нашым горадзе.

**Старшыня гарадскога**
**Савета дэпутатаў**
**В.НЕУШАЎ.**

# Не могуць ці не хочуць?

**На днях мой сваяк атрымаў новы замежны пашпарт у аддзеле віз і дазволаў Савецкага раёна г.Менска. Сам пашпарт старога, савецкага ўзору неіснуючай краіны СССР. За тры гады нашы ўлады не здолелі надрукаваць свае пашпарты для грамадзян Рэспублікі Беларусь. Шмат разоў за 1992-1993 гады бываючы ў Польшчы і Нямеччыне, я быў вымушаны адказваць на пытанні і тлумачыць палякам і немцам такі нонсенс. Нашы чыноўнікі тлумачаць гэта так: няма адмысловага абсталявання для друку пашпартоў, няма паперы, няма грашовых сродкаў. Але цяпер, паглядзеўшы новы пашпарт сваяка, я яшчэ раз убачыў яскравы доказ таму, што ў чыноўнікаў няма і жадання. У пашпарце былі адціснуты два новыя штампы. Першы — «ГРАМАДЗЯНІН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ», а другі —з надпісам пра тое, што пашпарт прыгодны для шматразовых выездаў ва ўсе краіны свету. Абодва выкананы на дзяржаўнай —беларускай і англійскай мовах. Супрацоўніку АВІДа, які афармляў гэты пашпарт, заставалася толькі ад рукі ўпісаць у другі штамп дату выдачы. Што ён і зрабіў, але... па-расейску. Улічваючы важнасць і прынцыповасць выканання Закона аб мовах, хачу праз вашу газету атрымаць ад кіраўніцтва АВІДа адказ — ці супрацоўнікі яго не здольны за чатыры гады з таго часу, як Вярхоўным Саветам быў прыняты Закон аб мовах, вывучыць нават адно слова па-беларуску, ці яны свядома ігнаруюць законы?**

**Уладзімір ВЯРХОВІЧ.**
**Менск.**

**МЕРКАВАННІ**

# Наша мова самастойная

Тлумачэнне па-новаму многіх фактаў беларускай гісторыі або мовы выклікае ў пэўнай часткі грамадскасці пратэст, супраціўленне. Напрыклад, дэпутат Вярхоўнага Савета В.Сарокін у «Народнай газеце» за 27.04.1994 г., абразліва выступаючы супраць пазіцыі Ніла Гілевіча ў пытаннях нацыянальнага адраджэння, бачыць у гэтым нейкі «националистический беспредел», які павінен быць спынены». Падобнае гучыць і з боку «Славянскага Сабора», аб чым пісаў В.Арлоў з Віцебска ў «Нашым слове», № 17, і г.д.

Таму мяне моцна зацікавіла гутарка Л.Баршчэўскай з прафесарам В.У.Мартынавым аб паходжанні беларускай мовы, надрукаваная ў «Нашым слове», № 9. Гэты вучоны гаворыць, што «Вядомая канцэпцыя калыскі трох моў не вытрымлівае ніякай крытыкі». Далей ідзе доказнае тлумачэнне. Думаю, што яго пазіцыя будзе ўспрынята неадназначна: аднымі — з разуменнем, другімі — з адмаўленнем.

У сувязі з гэтым я ўзгадваю віленскі часопіс-месячнік літаратуры і культуры Заходняй Беларусі «Родныя гоні», № 5 за 1927 г. У ім д-р Я.Станкевіч, пішучы на канферэнцыю ў Мінску па рэформе правапісу ў 1926 г., даводзіць, што на ёй прафесар П.Бузук (1891-1937) даказваў паходжанне беларускай мовы беспасрэдна з мовы праславянскай (пра— значыць «першасны, старажытны»). Моўныя дадзеныя «гавораць якраз процi тэорыі прарускага адзінства». Яго падтрымалі многія філолагі Беларусі і замежжа, асабліва дацэнт Німчынаў, але перамагла тэорыя аб існаванні старажытнарускай мовы, з якой пазней выдзеліліся руская, беларуская і украінская.

Усё ж у апошні час новыя погляды атрымалі далейшае развіццё. Напрыклад, сучасныя навукоўцы ў «100 пытаннях і адказах па гісторыі Беларусі» сцвярджаюць, што «старажытнарускага народа не было», як і «Старажытнарускай дзяржавы, мякка кажучы, ніколі не існавала». Праўда, вышэй згаданы В.Сарокін вінаваціць аўтараў у «фальсификации и превратном толковании исторических событий». А я з першай высновай пагаджаюся цалкам, але з другой — не магу, бо Кіеўская Русь існавала ў IX — XI стст., хоць як «рыхлае і нетрывалае дзяржаўнае ўтварэнне» (М.Чарняўскі). Ды вось Г.Сагановіч у артыкуле «Русский вопрос с точки зрения белоруса» («Народная газета», 30.04.1993 г.) піша, што «існаванне адзінай этнічнай агульнасці — старажытнарускай народнасці — у Кіеўскай Русі даказаць немагчыма. Хутчэй за ўсё існавала некалькі этнічнамоўных груп». Тут бачна супадзенне з поглядам нашага старэйшага мовазнаўцы В.У.Мартынава. Яму сугучны высновы В.Грыцкевіча ў часопісе «Маладосць», № 3 за 1994 г. Ён таксама адмаўляе «імперскую думку» пра адзіны ўсходнеславянскі этнас, адзіную мову і дзяржаву. Аўтар лічыць, што адзінства Кіеўскай Русі было недаўгавечным, усяго каля 70 год. А да гэтага і пасля існавалі самастойныя ўдзельныя княствы. Адзінства старажытнай мовы даволі доказна адвяргаў украінскі акадэмік С.Смаль-Стоцкі (1859-1939). На яго погляд, руская, украінская і беларуская мовы ўзніклі не са старажытнарускай, а непасрэдна з праславянскай. У пацвярджэнне немагчымасці існавання адзінага старажытнарускага народа і мовы В. Грыцкевіч прыводзіць гіпо-тэзу пецярбургскага вучонага В.Вілінбахава 60-х гадоў, згодна з якой плямёны ў Старажытнай Русі мелі мала агульнага, бо іх раздзялялі бязмежныя абшары лясоў і балот, а шляхі між тэрыторыямі былі дрэнныя.

Таму тагачасную Русь трэба лічыць часовым аб»яднаннем разнамоўных плямён, у якім адзіным, думаецца, было іх славянскае паходжанне, пазней распаўсюджанае хрысціянства, а з ім прынятая літаратурная стараславянская мова ва ўсходнеславянскім варыянце ці рэдакцыі — царкоўнаславянская вусная і пісьмовая мова, якая абслугоўвала дзяржаўныя і княжацкія структуры.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**ветэран педагагічнай працы.**
**г.Ашмяны.**

# Не «Мінск», а «Менск»!

У нашай краіне не сціхаюць спрэчкі, як вярнуць першапачатковую назву сталіцы. Вядома, што ў летапісе «Аповесць мінулых гадоў» горад упамінаецца як Меньск і як Менеск, а жыхароў горада называлі менянамі.

Пра заснаванне Менеска складзена шмат легенд і паданняў. Вось як у свой час расказваў пра гэта сваім выхаванцам (у тым ліку і мне) дырэктар Парэцкага дзіцячага дома Васіль Уладзіміравіч Паўленка. Па яго словах, на месцы сучаснага галоўнага беларускага горада на беразе ракі Свіслач некалі жыў незвычайнай моцы і прыгажосці волат Менеск, які выкрадаў прыгажунь-дзяўчат і рабіў іх сваімі жонкамі. Дзеці волата на месцы жытла бацькі заснавалі горад і назвалі яго Менескам.

Чуў я і іншы працяг падання пра Менеска. Праз некалькі гадоў пасля пахавання заснавальніка роду адзін майстар вырашыў адлюстраваць вобраз Менеска ў камені. Непадалёку знайшлі вялікі валун і па рацэ прывезлі на замчышча.

Трыццаць тры гады, тры месяцы і тры дні адбіваў першы скульптар горада кавалкі каменя, шліфаваў, каб зрабіць тое, што захоўвала памяць. Аднаго разу ўсе замерлі ў захапленні, бо перад імі паўстаў у камені іх бацька. Яны, не згаворваючыся, пачалі маліцца на яго. З гэтага часу Менеск зрабіўся іх галоўным богам. Але нядоўга цешыліся меняне сваім жыццём і стваральнай працай. Прыйшла агромністая зграя ваяроў, якія аблажылі горад вялікай сілай. Многа дзён і начэй адбіваліся мужныя меняне. Але ворагаў, як крумкачоў, рабілася ўсё болей і болей, за імі не было нават бачна ні дрэўца, ні хмызняку, ні травінкі. Час ад часу меняне з надзеяй пазіралі на свайго бога — Менеска. У вачах апошняга бачылі толькі заклік змагацца з ворагамі. Затым адбылося дзіва: раптам ажыў, уздрыгнуў Менеск. І пайшоў ён да гарадской сцяны, і рушыла за ім ўсё меняскае войска. Адчыніліся брамы — і пачалася вялікая, лютая бітва.

Мужна і самаахвярна змагаліся меняне. Але ворагаў было ў сотні разоў больш. Радзелі рады гараджан, і вось Менеск застаўся адзін. Калі сілы сталі пакідаць волата, паглядзеў ён на раку Нямігу, якая ўжо зрабілася чырвонай ад крыві. Тады волат сабраў апошнія сілы, вырваў агромністы дуб, замахнуўся на ворагаў і упаў...

Кінуліся да яго чужынцы і ўбачылі, што Менеск пачаў уваходзіць у зямлю. Яны проста аслупянелі. А калі ачомаліся, то заўважылі, што на зямлі з»явіўся новы ручай. І яму далі назву Мен. Пасля выгнання ворагаў жыхары вакольных мясцін любілі глядзець у чыстыя, крыштальныя воды ручая. Часта яны бачылі там бацьку сваіх продкаў — бога Менеска.

П'ючы ваду з ручая, хлопцы рабіліся мацнейшымі і дужэйшымі, а дзяўчаты — больш працавітымі і прыгажэйшымі. На жаль, людзі з часам забыліся на свой цудадзейны ручай.

Беглі гады... Даведаўшыся, што робіцца здзек над назвай горада, ручай прачнуўся і зноў прабіўся да людзей. Але горка стала яму, бо горад ужо называлі на чужы, польскі капыл —Мінск. Не разумеў ручай: чаму меняне выракліся свайго сапраўднага, гістарычнага імя?

На жаль, няма ў сённяшнім Менску ні вуліцы, ні помніка Менеску. Наш міфічны Менеск таксама, як і легендарная рымская ваўчыца, павінен быць увасоблены ў помніку. Сталіцы ж нашай даўно настала пара вярнуць сваё адвечнае, роднае імя, бо гістарычна горад гэты не Мінск, а Менск.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства.**
г.Баранавічы.

# «СЛУЖЫЦЬ ЯЕ ВЯЛІКАСЦІ СВАБОДЗЕ»

*Васілю БЫКАВУ — 70*



*Рыгор БАРАДУЛІН*

## Ганне Рыгораўне Быкавай

Як апошняя завіруха,
Маці белая-белая,
І з завейнымі скронямі сын.
Словы падаюць глуха-глуха.
Цішыню аўдавелую
Захлынае палын-успамін.

Як у птушачкі лапкі, рукі,
Што люлялі ў паланачках,
Спавівалі сынка Васілька.
У дзверы страху абгрукалі грукі,
Адпрасіліся ў наначкі.
Абмялела тугі рака.

І дзесяты дзесятак ціха
Размяняла старэнніца,
Неўзнаку праляцелі гады.
Нажылася пад дахам ліха —
Хай з ім сын не сустрэнецца! —
І пад знакам бяды.

З хаты выйшла да сына,
Села ў прызбе на прыгарбе.
Мураву ёй паслала зямля.
Каля печы пагнула спіну,
Ды жарынкаю выграбла
Зорку долі свайго Васіля!

*1984.*

## Васіль Быкаў: культура — мова — народ

Мы многае ўмеем, умельства наша ў пэўным сэнсе можа параўнацца з высокім артыстызмам класікаў. Часам возьмеш у рукі кніжку, з густам ці не дужа аздобленую выдавецтвам, і не можаш не падзівіцца, разгарнуўшы на любым месцы. Такое майстэрства! Такія апісанні! Тры старонкі і ніводнага абзаца — сплашняк, думка за думкай, слова за словам так і чапляецца, лес, джунглі самых маляўнічых дэталей. А мова! Такое багацце, што вочы разбягаюцца, і без спецыяльнага слоўніка беларусу цяжка зразумець, аб чым гаворка. Дзе ўсё гэта сабраў дбайны аўтар —усе гэтыя замшэлыя слоўцы, сумніцельнага густу выразы, якія далей за вясковым выганам ніхто зразумець не можа. Але ж кніжка выдадзена не для адной вёскі. Хто і як будзе яе чытаць?

Гаворачы пра мову, нельга не сказаць тут, што і шэрая, невыразная наша канцылярская мова, мова многіх нашых газет ды і часопісаў — таксама бяда, гэта агульнавядома. Але сёння ўжо можна падумаць: ці не аднолькавай бядой з»яўляюцца абедзве гэтыя крайнасці — пазбаўленае густу і меры захапленне дыялектызмамі, пакарабачанымі, без жаднай патрэбы перайначанымі слоўцамі, моўнымі калекамі і прыдумкамі, таксама як і шэрая казёншчына мовы — яны аднолькава аддаляюць нашу літаратуру ад яе чытача — народа. Такая мова аднолькава незразумелая і чужая і для горада, і для вёскі. Лексічная яе манернасць, снабісцкая гульня ў моўны прымітывізм, жаданне здзівіць нечуваным з цягам часу ператварае яе ў зусім папяровую з»яву, латынь з абмежаваным колам ужытку. Канешне, кожны аўтар мае права на пошук у сваёй галіне, але што датычыцца літаратурнай мовы, дык лепш бы турбавацца пра яе развіццё, рух наперад, у заўтрашні дзень на аснове сучаснага жыцця з яго новымі моўнымі патрэбамі і яго моўнымі заканамернасцямі, якія склаліся...

Між тым у нашай літаратуры ёсць выдатныя прыклады высокага густу ў галіне мовы, прыгоднай для самых розных стылёвых мэт — і мастацкай літаратуры, і нашага справаводства. Дрэнна толькі, што лепшыя здабыткі нашых пісьменнікаў-стылістаў застаюцца прыватнай іх прывілеяй, не распаўсюджваюцца, не пераймаюцца, амаль не вывучаюцца. А шкада. Нават стылістыка Купалы і Коласа не стала, на жаль, эталонам для ўсеагульнага карыстання, хоць менавіта яна па праву ляжыць у падмурку сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

*«Нашы надзённыя клопаты». У кн.: В.Быкаў. Праўдай адзінай. Мн., 1984.*

x x x

Я ўжо меў выпадак аднойчы кранаць праблему мовы некаторай часткі нашых празаічных твораў, якія замест таго каб садзейнічаць моўнаму развіццю, на практыцы дасягаюць адваротнага — разбураюць нацыянальнае адзінства літаратурнай мовы. Моўнае эксперыментатарства, стылёвыя і лексічныя пошукі на літаратурнай перыферыі ў іншы час, на іншым гістарычным этапе, можа, і былі б апраўданыя і зразумелыя, але не цяпер. Цяпер не трэба быць вялікім правідцам, каб зразумець важнасць для нацыі адзінай літаратурнай мовы, якую трэба ўсямерна шанаваць, берагчы, ашчадна развіваць і ўдасканальваць у рамках разумнае моўнай практыкі, а не гвалціць яе канцылярызмамі, не разносіць па рэгіянальных і хутаранскіх дыялектных закутках, ператвараючы ў моўны кангламерат, даступны хіба літаратурным снобам і малазразумелы народу. А што ўся наша літаратура без яе чытача — народа?!

Мы ўзялі ў спадчыну ад народа вялікі і неацэнны скарб — яго шматвекавую, пераважна гутарковую бытавую мову, якая лягла ў аснову сучаснай літаратурнай мовы. Але для развітой нацыі гэтага яўна недастаткова, грамадства ў наш час не можа абысціся без іншых стылёвых моўных пластоў: дзелавога, бюракратычнага, газетнага, тэхнічнага, вайсковага, навуковага. А дзе яны? Заслугоўваюць сур»ёзнага папроку нашы вучоныя-мовазнаўцы, якія яўна ўхіліліся ад распрацоўкі надзённых праблем стылістыкі сучаснай беларускай мовы, абмежаваўшыся сістэматызацыяй бытавой гутарковай мовы. Такім чынам, у галіне мовы ў нас дагэтуль усё ў адной кучы, дзе рознастылёвасць разбурае моўную гармонію. Бытавы стыль беларускай вёскі, які складваўся стагоддзямі, прыдатны ў дачыненні да з'яўў прыроды, вясковага побыту, адносін паміж сялянамі, але ён робіцца малапрыдатны ў дачыненні да сучаснай навукі, тэхнікі, філасофіі, мастацтва. Тут патрэбны іншая лексіка і іншая, адметная ад звыклай нам бытавой, стылістыка. Калькаванне з рускай мовы, да якога звяртаюцца кожны раз у такім выпадку, — не выйсце, а наша бяда, бо такі пераклад не дае арганічнага эквіваленту на беларускай мове. Зрэшты, гэтая недастатковасць адчуваецца таксама і ў бытавой мове, бо мушу заўважыць шаноўным лінгвістам, што сённяшні чулок гэта не панчоха, форменны вайсковы паўшубак гэта не кажушок, а мастакоўская каланковая кісць гэта не пэндзаль, як гэта значыцца ў слоўніках. Калі нацыя хоча развіваць культуру на высокіх сучасных стандартах, яна павінна валодаць моваю гнуткай, багатай, мілагучнай і — рознастылёвай. Трэба, каб на беларускай мове натуральна і прыгожа гучалі не толькі мастацкія літаратурныя творы, але і тэхнічныя творы, навуковыя творы, філасофскія творы.

*«Зарука нашае будучыні!». У кн.: В.Быкаў. Праўдай адзінай. Мн., 1984.*

xxx

— З беларускай мовай адбываецца тое, што рабілася з ёю даўно: яна патроху і памалу гіне, сфера яе ўжытку катастрафічна звužваецца. З ноў жа ва ўмовах новага гаспадарання, калі многія культурныя ачагі пераходзяць на кааператыўныя, рыначныя адносіны, калі сродкаў на культуру выдзяляецца вельмі мала, зусім ужо можна прадказаць, на колькі гадоў хопіць нашае мовы. Нават на колькі месяцаў... І я думаю, што толькі ў тым выпадку захаваецца наша культура, наша мова, калі Беларусь набудзе сапраўдны суверэнітэт. Толькі суверэнітэт і незалежнасць могуць выратаваць нашу нацыянальную культуру. Цяпер ужо пэўна, што калі мы не даможамся суверэнітэту, дык можна будзе навек развітацца з усёй нашай нацыянальнай асобнасцю.

*Гутарка з В.Нікіфаровічам. У кн.: В.Быкаў. На крыжах. Мн., 1992.*

x x x

— Мы стаім на тым, што культура павінна мець нацыянальную форму. Але ў сучасных варунках нацыянальная самабытнасць культуры з»яўляецца і яе моцным, і слабым месцам. Моцным у тым сэнсе, што гэта спрадвечнае; нацыянальнае, між іншым, гэта не тое, што дазволена або ўведзена дэкрэтам. Гэта, па-першае, біялагічнае, унаследаванае ад прыроды, дадзенае Богам... Тут не трэба, як гэта часам бывае, папракаць, што ў адных яно ў большай меры праяўляецца, у іншых — у меншай. Гэта ўжо як каму дадзена. Але гэта натуральнае пачуццё, такое самае, як пачуццё мацярынства. Іншыя сакраментальныя пачуцці, закладзеныя ў чалавеку генетычным шляхам.

Адзіны спадзяванак цяпер — на тое, што нацыянальная культура неяк вытрымае дзякуючы перш за ўсё свайму нацыянальнаму менталітэту. У беларусаў ёсць вопыт. Усё-такі, не маючы сваёй дзяржаўнасці на працягу стагоддзяў, намаганнямі мноства пакаленняў і перш за ўсё апосталаў сваіх, беларусы захавалі сваю нацыянальную культуру. Былі перыяды, калі яна амаль зусім знікла. І тым не менш яна засталася. І таму, нават у сучасных умовах, у канцы XX стагоддзя, мы ўсё-такі думаем, што яна яшчэ затрымаецца на нейкім краёчку і адновіць свой натуральны працэс адраджэння і росквіту...

*Гутарка з Ю.Залоскам. ЛіМ, 1993 г., 14 мая.*

x x x

— Гіне культура, тое мы адчуваем бясконца і кожны дзень, аб тым мы думаем і тым апякуемся. І гэта не прывід, не здань замутненай свядомасці — то сумная рэальнасць нашага часу. Наш жах і страхоцце. Сапраўды, як існаваць нацыі без культуры? Тады з чым ёй існаваць? І для чаго наогул такая нацыя?

Трэба, аднак, прызнаць, як бы тое ні было крыўдна: пагібель культуры пачалася не сёння і нават не ўчора. Будучы катэгорыяй сугуба нацыянальнай (памятаеце: нацыянальная па форме і сацыялістычная па зместу), яна ўсчала ўласную пагібель у той момант, як перастала быць нацыянальнай, а засталася адно сацыялістычнай... Доўгі час асліпленыя вар»яцкім прывідам сацрэалізму, мы лічылі, што такая культура развіваецца, і што калі ёй чаго не хапае, дык гэта гранічнай дасканаласці. І мы дзесяцігоддзямі дасканалілі сваю тэхналогію, апантаныя адным імкненнем — дагадзіць. Мы жылі ў прывідным свеце цэкоўскіх пастаноў, плылі па смярдзючым балоце на караблі дурняў. Мы не бачылі, што гэтая культура, страціўшы сувязь з нацыянальнай глебай, паражонай вірусам камуністычнасці, ледзьве ліпіць у абсалютнай стагнацыі...

Без нацыянальнай глебы, нацыянальнай ідэі, нацыянальнай ментальнасці ніякая культура — не культура. Напэўна, можа быць касмапалітычная (транснацыянальная) эканоміка, дэнацыяналізаваная армія і ВПК, але не можа быць касмапалітычнай культуры. Тое, пэўна, разумеюць усюды, ды не ў нас. Мы ўсё яшчэ не можам усвядоміць сапраўдныя варункі пагібелі нашай культуры...

Так, гіне культура. Але калі яна згіне, дык, можа, гэта і не культура. Хіба што яе сурагат, кітч, адкіды псеўдакультуры. І, можа, бедаваць па ёй надта не трэба — народзіцца новая, сапраўдная, паўнаважкая, не фальшывая. Праўда, важна ўсведамляць, што здарыцца тое можа пры адной умове — калі нацыя сапраўды набудзе суверэннасць у сваёй дзяржаўнасці і дэмакратычны кірунак развіцця. Тады яна спародзіць культуру, вартую яе і патрэбную яе грамадству. А не навязаную ёй чужынцамі, для іхніх чужынскіх мэтаў. Праўда, гэта ўжо будзе новая старонка гісторыі, у якой месца для нас не будзе. Мы свой гістарычны лёс спляжылі, змарнавалі, бяздарна прафукалі, як казалі даўней. Ды што ж, пэўна, такі наш лёс. Лёс збанкрутаваных дзеячаў сацрэалізму, бяздарных інжынераў мутанных душ...

*Гутарка з Г.Булыкай. «Культура», 1992 г., № 11*

## Васіль Быкаў: пра талент і грамадзянскую пазіцыю

— Апроч таленту, ёсць яшчэ і маё грамадзянскае сэрца. Калі я бачу, што ў жыцці адбываецца несправядлівасць, ці магу я абысціся толькі літаратурнымі здольнасцямі, без палітычных памкненняў?

Талент — вельмі важны для гісторыі мастацтва, але для мяне суб»ектыўна грамадзянская каштоўнасць чалавека пераўзыходзіць яго мастацкую каштоўнасць. Я гатовы даравацц пэўныя слабіны мастацка-літаратурнага сэнсу пісьменніку, калі ён праяўляецца як грамадзянін, як асоба, якая патрэбна нацыі ў грамадзянскім сэнсе. І наадварот, я не магу даравацць таленту, калі яго грамадзянская пазіцыя служыць рэакцыі і калі яна накіравана супраць грамадства, супраць нацыі.

*Гутарка з Ю.Залоскам, ЛіМ, 1993 г. 14 мая.*

## Васіль Быкаў: якія якасці найбольш неабходныя прэзідэнту— у нашай краіне і ў нашым грамадстве:

— Мабыць, шмат якія. Але найпершая і самая неабходная —цвёрдае перакананне ў прыярытэтнасці нацыянальнай ідэі, гатоўнасць да ахвярнага служэння ёй. Такія прэзідэнты не надта патрэбны вялікім нацыям, але жыццёва неабходныя малым.

*Гутарка з С.Навумчыкам. «Народная газета», 1994 г. 13 мая.*

**Матэрыял падрыхтавала да друку ІрынаКРЭНЬ.**

***У мінулым — пачатку нашага стагоддзя сярод слынных імёнаў лепшых прадстаўнікоў расійскай гуманітарнай эліты сустракаецца толькі некалькі асоб, якія бачылі ў беларусах самастойную нацыю з уласнай гісторыяй і незалежнай будучыняй. Прызнае стаўленне А.Герцэна, М.Дабралюбава, М.Чарнышэўскага да вольналюбівых памкненняў нашага народа ўжо неаднойчы падкрэслівалася беларускімі даследчыкамі. Але ж гэтымі славутымі прозвішчамі ўсё ж не вычэрпваецца кароткі пералік лепшых расійскіх розумаў, якія тады лічылі беларусаў сваімі кроўнымі і, галоўнае, роўнымі сабе, братамі. Да яго належалі і некаторыя іншыя цудоўныя рускія людзі, аб станоўчым уздзеянні якіх на працэсы адраджэння беларускай нацыянальнай культуры мы дагэтуль ведаем яшчэ мала. Якраз такім чалавекам быў і Аляксей Аляксандравіч Шахматаў (1864 — 1920) — выдатны рускі моваэнавец-славіст, акадэмік Пецярбургскай АН, аўтар шматлікіх навуковых прац па фанетыцы, дыялекталогіі, лексікаграфіі, сінтаксісу, гісторыі мовы, рэдактар акадэмічнага шматтомнага «Слоўніка рускай мовы», які выходзіў у свет у 1885-1916 гадах.***

# Прыхільнік беларушчыны

## *(Да 130-годдзя акадэміка А.Шахматава)*



**А**ЛЯКСЕЙ ШАХМАТАЎ нарадзіўся 5 чэрвеня (17.06 паводле новага стылю) 1864 года ў Нарве ў сям'і варонежскага губернскага пракурора. На ранняе абуджэнне ў хлопчыка схільнасцей да лінгвістыкі значны ўплыў аказалі бацькі, у першую чаргу маці, якая з дзяцінства добра валодала некалькімі еўрапейскімі мовамі, а затым паспяхова скончыла Пецярбургскі Кацярынінскі жаночы інстытут. У шасцігадовым узросце Аляксей неспадзявана асірацеў, выхоўваўся ў сям'і брата бацькі, разам з якім у 1876 годзе паехаў за мяжу, дзе ва універсітэцкіх бібліятэках Лейпцыга і Парыжа ўпершыню пачаў самастойна займацца філалогіяй. У час вучобы Шахматава ў IV Маскоўскай гімназіі (1879 — 1883), калі ён вывучаў старажытныя рукапісы Сінадальнай бібліятэкі і Румянцаўскага музея, канчаткова вызначыліся навуковыя інтарэсы юнака, які вырашыў сканцэнтравацца на даследаваннях гістарычных каранёў рускай мовы. У 1887 годзе Шахматаў бліскуча скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта. Тады ён меў ужо ўласныя лінгвістычныя працы, адзначаныя акадэмічнай прэміяй, таму быў пакінуты пры універсітэце, дзе неўзабаве атрымаў ступень магістра і пачаў чытаць лекцыі па гісторыі рускай мовы. У 1893 годзе Шахматаў стаў доктарам філалогіі, праз тры гады быў абраны экстраардынарным (пазаштатным) акадэмікам Пецярбургскай АН, а ў 34-гадовым узросце ён стаў сапраўдным акадэмікам. Гэта, дарэчы, унікальны выпадак у мінулым стагоддзі, бо звычайна акадэмічныя званні атрымоўвалі куды больш сталыя людзі.

Сярод знакамітых расійскіх філолагаў Аляксей Аляксандравіч вызначаўся не толькі выдатнымі здольнасцямі і самаахвярнай адданасцю любімай працы, не толькі грунтоўнымі лінгвістычна-гістарычнымі даследаваннямі, якія па сённяшні дзень не страцілі сваёй значнасці. Яго вылучаў перш за ўсё прынцыпова новы падыход да аналізу нацыянальных славянскіх моў у якасці жывых помнікаў духоўнай і гістарычнай культуры адпаведных народаў. Таму вялікую ўвагу Шахматаў надаваў і комплекснаму вывучэнню беларускай мовы. Вучоны лічыў увогуле, што частка беларускіх земляў (Панямонне, цячэнне Паўночнай Дзвіны) — гістарычная прарадзіма славянства. Гэтае важкае меркаванне і зараз яшчэ не знята з парадку дня, яно па-ранейшаму мае сваіх гарачых прыхільнікаў.

Акадэмік Шахматаў адкрыта падтрымліваў беларускі нацыянальна-вызваленчы рух, які стаў прыкметнай грамадскай з'явай у ходзе рэвалюцыі 1905 — 1907 гадоў. У сваім лісце да першага рэдактара «Нашай нівы» А.Уласава ён напісаў 12 студзеня 1908 г.: «Я безумоўны прыхільнік беларускага нацыянальнага руху». Асабліва неацэнная аказалася практычная дапамога Аляксея Аляксандравіча заснавальніку беларускай філалогіі, мовазнаўства і фалькларыстыкі Яўхіму Карскаму пры падрыхтоўцы ім да выхаду ў свет выдатнай трохтомнай працы «Беларусы». Дададзім, што менавіта пад творчым апякунствам акадэміка Шахматава малады кандыдат філалогіі Браніслаў Тарашкевіч у свой час распрацаваў першую беларускую граматыку, якая дзесяцігоддзямі была агульнапрызнаным падручнікам нашай нацыянальнай школы.

У 1908 — 1910 гг. А.Шахматаў некалькі разоў прыязджаў на Беларусь, рабіў фанаграфічныя запісы жывой гутарковай беларускай мовы, збіраў фальклор у Барысаўскім павеце Менскай губерні, прапанаваў пакласці сабраныя тут матэрыялы ў аснову фанаграфічнага архіва Пецярбургскай АН. У пачатку Першай сусветнай вайны ён чытаў у Пецярбургу спецыяльны універсітэцкі лекцыйны курс «Беларуская мова ў сучасных яе гаворках». Актыўная грамадская пазіцыя ўсебаковай падтрымкі беларушчыны Шахматавым дала падставу рэакцыйнай газеце «Московские ведомости» ў 1915 г. абвінаваціць акадэміка ў «агітацыі за беларускі сепаратызм».

Пасля кастрычніцкага перавароту Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацкам — аддзел народнага камісарыята па справах нацыянальнасцей РСФСР) зацікавіўся тэкстам лекцый па беларускай мове, якія чытаў А. Шахматаў. Акадэмік не адкладваючы, пісьмова адгукнуўся на просьбу Белнацкама. Гэтыя апошнія дакументальныя «беларускія» старонкі з біяграфіі Аляксея Шахматава нядаўна выявіў у адным з менскіх архіваў вядомы гісторык Віталь Скалабан.

Застаецца пашкадаваць толькі, што на Беларусі памяць Шахматава — выдатнага расійскага філолага, паслядоўнага прыхільніка беларушчыны — дагэтуль ніяк не ўшанавана, хоць ён таго даўно заслугоўвае.

**Мар'ян ВІЖ.**

# *Віленская гімназія: была, ёсць, будзе!*



***— Паважаныя выпускнікі Віленскай беларускай гімназіі! Паважаныя бацькі, паважаныя дзеці, паважаныя госці! Віншую вас з вялікім святам беларускай супольнасці!***

***Быў час, калі ў адкрыцці школ бралі ўдзел каралі, прэзідэнты, найбольш вядомыя прадстаўнікі грамадства. Так было і, я думаю, так яшчэ будзе. Таму што заснаванне нацыянальнай школы — гэта вялікая падзея. Я ведаю гэта па сабе. Калі я сам не меў магчымасці вучыцца на сваёй роднай мове, я не мог лічыць сябе прадстаўніком свайго народа. І толькі тады, калі гэта адбылося, я зразумеў, які глыбокі змест закладзены ў ідэі нацыянальнай адукацыі.***

***Маё жыццё склалася так, што я ўвесь час жыву паміж беларусамі, ці, як мы вас называем, гудамі, і літоўцамі. І я вельмі ўдзячны беларусам, бо ў нас ніколі не было падстаў для спрэчак, хіба што з-за дзяўчат. Але мы разам спявалі песні, мы жылі адным жыццём. Паглядзіце: гісторыя цесна звязала нашы народы. З часоў Вялікага Княства мы былі разам. І ужо ў наш час, пасля Першай сусветнай вайны — аб гэтым варта нагадаць — у Вільні існавалі толькі дзве гімназіі — адна літоўская і адна беларуская. Гэта сімвалічна. Таму сёння я хачу падараваць вам выцінанку, сімволіка якой — адзінства нашых народаў. І я зычу ўсім: хай заўжды свеціць вам сонца!***

**П**АЧУЎШЫ гэтую прамову, сказаную па-беларуску спадаром Аўгулісам — Часовым паверанным Летувіскай Рэспублікі ў справах Беларусі, — я нарэшце адчуў, што знаходжуся ў Вільні. Не проста ў Вільні — сталіцы суседняй дзяржавы, а ў горадзе, самое існаванне якога стала часткай нашай айчыннай гісторыі. Я быў у Вільні — родным горадзе многіх пакаленняў беларусаў, якія ў гэты дзень, 21 траўня, святкавалі 75-годдзе Віленскай беларускай гімназіі.

Актавая зала ў будынку на Аўшрос Варту, 7а сабрала прадстаўнікоў усіх пакаленняў віленскіх беларусаў — ад выпускнікоў гімназіі даваеннага часу да іх унукаў — сённяшніх яе навучэнцаў. Свята, наладжанае Таварыствам беларускай школы Летувы, летувіскім Таварыствам беларускай культуры ды віленскім клубам аматараў народнай творчасці «Сябрына», сабрала шмат гасцей не толькі з краю, але і з-за мяжы. Летувіскі бок прадстаўлялі сп.Вайцекус — намеснік дырэктара Дэпартамента нацыянальнасцей, прадстаўнікі гарадскога аддзела народнай адукацыі і Міністэрства адукацыі, дырэктары школ, з якімі супрацоўнічае гімназія. З Беларусі прыехалі прадстаўнік Вярхоўнага Савета і Таварыства беларускай мовы Я. Цумараў, прадстаўнікі Камісіі па адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета, Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры і друку, Міністэрства замежных спраў, Савета Міністраў, таварыстваў «Радзіма» і Бацькаўшчына», Беларускага фонду культуры, Заслаўскага музея-запаведніка. З Польшчы прыехала дэлегацыя ад сістэмы беларускага школьніцтва — настаўнікі разам з вучнямі. Прысутнічаў пасол Беларусі ў Летуве і іншыя работнікі пасольства. Але галоўнымі ўдзельнікамі ўрачыстасці сталі выпускнікі гімназіі розных часоў, якія прыехалі сюды з розных куткоў Летувы, Беларусі, Польшчы, даслалі віншаванні з Канады, Злучаных Штатаў Амерыкі, Украіны і Расіі. Успаміны, якімі гэтыя людзі дзяліліся з удзельнікамі свята, стваралі адзіны вобраз заснаванай у далёкім 1919 годзе гімназіі як асяродка, які рыхтаваў новае пакаленне беларускай інтэлігенцыі — людзей, гатовых плённа працаваць на карысць сваёй радзімы і свайго народа. Лёс вырашыў інакш. Беларусь не стала дзяржавай, роўнай сярод роўных, і далёка не ўсе колішнія навучэнцы Віленскай гімназіі знайшлі сабе месца на радзіме. Але нават тыя колішнія яе вучні, якіх лёс раскідаў па ўсім свеце, здолелі захаваць нашмат больш за многіх суайчыннікаў на радзіме: сваю беларускасць.

Былыя навучэнцы гімназіі наведалі памятныя беларускія мясціны Вільні — тыя, якія паўстагоддзя таму былі для іх проста месцам навучання, працы ці вызнання веры. Прыйшлі на гарадскія могілкі, каб пакласці кветкі на магілы памерлых і забітых дзеячаў беларускага Адраджэння — сваіх аднакласнікаў і настаўнікаў. Я бачыў, як сталага ўжо ўзросту чалавек, які апошні раз пераступіў парог Віленскай беларускай гімназіі роўна паўстагоддзя таму, на могілках Роса ўкленчыў перад магілай Францішка Аляхновіча, годам смерці якога стаў год заканчэння гімназіі ягоным вучнем. Мацей Канапацкі — так звалі былога гімназіста — прыехаў на сустрэчу з Польшчы. Ён, які і Наталля Арсеннева з ЗША, канадзец Кастусь Акула, жыхар Германіі Барыс Кіт ды мноства іншых выхаванцаў школы у Базыліянскіх мурах, не забыў роднай мовы, не страціў пачуцця радзімы, нават жывучы далёка ад яе.





Але святкаванне ўгодкаў гімназіі не было святам настальгічных успамінаў аб тым, чаго не вернеш. Падчас урачыстасцей кветкі былым навучэнцам уручалі сённяшнія вучні адроджанай беларускай гімназіі — тыя, якія працягваюць захоўваць яе дух сёння.

**У.ПАНАДА,**
**спецыяльны карэспандэнт «Нашага слова».**

*Фота аўтара.*

 



**Р. ЛЯДАХОВІЧ-ТАМІЛІН**

# Некаторыя праблемы стварэння беларускага навукова-тэхнічнага назоўніцтва

***(Скарочаны даклад з першай нацыянальнай тэрміналагічнай канферэнцыі)***

З эканамічным станаўленнем Вялікага Княства Літоўскага, нашай дзяржавы, стварылася адпаведна беларускае тэхнічнае назоўніцтва, дарэчы, больш абшырнае, чымсьці ў некаторых суседніх дзяржавах. Вазьміце хаця б назвы прамысловых прадпрыемстваў: *рудня, гута, буда, майстэрня, цагельня, паперня, швальня, ткальня, гарэльня, сыраварня*... Але ад шматлікіх войнаў ды падзелу ВКЛ занепала прамысловасць і, адпаведна, нацыянальнае тэхнічнае назоўніцтва. Сёння палітычныя абставіны даюць нам унікальную магчымасць адраджэння традыцыйнага і стварэння сучаснага беларускага навукова-тэхнічнага назоўніцтва. У гэтай дзейнасці можна вызначыць некалькі праблем.

## Праблема першая. Сістэматызацыя паняццяў

Беларускае навукова-тэхнічнае назоўніцтва, як кожная сістэма назоўніцтва, мусіць грунтавацца на навуковай, дастаткова абшырнай, адпаведнай не толькі сучаснасці, але і магчыма **перспектыўнай** сістэматызацыі аб'ектаў гэтага назоўніцтва ў пэўнай галіне ведаў. Традыцыйна сфарміраваныя сістэмы назоўніцтва ва ўсіх мовах, у тым ліку ў беларускай, маюць шэраг гістарычна сфарміраваных недахопаў. Прыкладам, сумяшчэнне назоваў паасобных паняццяў, якія не мелі патрэбнага цяпер падзелу (неабходна вылучаць нюансы): ***латунь, бронза, але медна-нікелевыя сплавы. Латунь*** — медна-цынкавы сплаў, *бронза* — сплаў медзі з іншымі (акрамя цынку, першапачаткова з волавам) металамі, але ў сучаснасці вылучаюцца медна-нікелевыя сплавы, якія згодна старой класіфікацыі можна далучыць да першай або да другой у залежнасці ад наяўнасці ў ім цынку.

Каб пазбегнуць падобных недахопаў, **сістэма назоўніцтва мусіць быць створана не паводле сістэм наяўнага слоўніцтва, але на сістэмах сучасных паняццяў** з дакладна акрэсленымі азначэннямі паняцця ды выразна вызначанаю іерархічнаю падпарадкаванасцю.

Стварэнне сістэм паняццяў — справа спецыялістаў з адпаведнае галіны навукі ці тэхнікі, таму што лінгвісты могуць падмяніць сістэму паняццяў на сістэму назоваў. Але ж калі створаныя сістэмы паняццяў маюць ператварыцца ў сістэмы назоваў, то тут вырашае лінгвіст — надае ім (назовам) уласцівую беларускай мове форму. Прыкладам, ёсць аб'ект — *твор*, ёсць дзеяч — *творца*, які стварае твор, ёсць ягоная дзейнасць — *тварэнне*, нарэшце, сфера дзейнасці — *творчасць*. Адпаведна: *вытворца вытварае вытворы* ў сферы *вытворчасці*, *вырабнік вырабляе вырабы* ў сферы *вырабніцтва*, *прадуцэнт прадукуе прадукты*. Але як назваць сферу ягонае дзейнасці — *прадукцыя?* (production) або *прадуцэнства* ці *прадукоўніцтва?* Як назваць дзейнасць *вытворцы, вырабніка, прадуцэнта* — *вытвараннe, вырабленне, прадукаванне?* Такія аспекты маюць чыста лінгвістычную прыроду, а таму мусяць быць вырашаныя адпаведным спосабам.

## Праблема другая. Беларускасць назоваў

Патрэбна адраджэнне традыцыйнага беларускага назоўніцтва, зварот да сапраўднае беларускае мовы, не «наркамаўкі», зубожанае і ператворанае ў «испорченный русский язык» палітарным перакладам з тае самае расійскае мовы.

Калі звяртаешся да перакладу, прыкладам, стандартавых дэфініцыяў (дакладных лагічных азначэнняў паняцця) з расійскае мовы, заўважаецца шматзначнасць расійскіх назоваў. Так, расійскія *«определить»* і *«установить»* маюць у беларускай мове болей дзесятка аналагаў з рознымі сэнсавымі адценнямі: *вызначыць, азначыць, акрэсліць, прызначыць, усталіць, укшталтаваць, уясніць, усталяваць, з»ісціць, дэфініяваць*... Прыродныя недахопы расійскай мовы штучна пераносіліся ў беларускую «наркамаўку». Дакладчык прапанаваў такі падзел вынікаў прадукцыйнай дзейнасці чалавека — *прадукта*: «здабытак» (рас. результат добычи) — нафта, вугаль: «вытвор» (рас. изделие расходуемое) — бензін, чыгун, цэмент, хлеб — г. зн. прадукт для спажывання; «выраб» (рас. изделие нерасходуемое) — прадукт не для спажывання, а для карыстання.

Перавагу беларускага назоўніцтва можна праілюстраваць паводле стандартавага азначэння «деталь» — *дэталь*. Так, у старым азначэнні было: «изготовленное из одного куска материала». Але як ставіцца тады да літых дэталяў — з якога «куска матэрыяла» яны зробленыя? Таму мусілі ўдакладняць: «Деталь —изделие, изготовленное из однородного по наименованию и марке материала». Што такое ўвогуле «матэрыял»? Згодна з вызначэннем: «Материал — изделие, подаваемое на сборку не разделённым на детали». Аўтары вызначэння слова «деталь» мусілі даць паясненні, што павінны адсутнічаць «сборочные операции», што «покрытия» асобным матэрыялам не лічацца...

Калі ж азначэнне «дэталь» падаць па-беларуску, будзе: «*Дэталь — выраб*, што атрыманы з аднаалітага вытвору». Дадатковыя тлумачэнні не патрабуюцца.

## Праблема трэцяя. Пазычанне назоваў

Пазычанні ў беларускім навукова-тэхнічным назоўніцтве, як, дарэчы, і ў некаторых іншых мовах, складаюць да 70 — 80 працэнтаў ад усіх назоваў. Многія з іх трапілі з лаціны — мовы навукі, а таксама праз кантакты з нямецкім, французскім, англійскім назоўніцтвам ды так грунтоўна асіміляваліся, што традыцыйна лічацца сваімі. Прыкладам, *аб'ект, абрыс, база, вага, вось, гармата, гвінт, дах, друк, квадрат, лінія, норма, прадукт, працэс, торф, тэхніка, функцыя* ды іншыя.

У пэўных выпадках пазычанні прадыктаваныя міжнароднымі нормамі. Прыкладам, у Міжнароднай сістэме фізічных адзінак —**СІ** ёсць адзінка сілы святла — *кандэла*. Такая назва мусіць быць прынятая замест ранейшага «свяча». Тое ж можна сказаць і пра адзінку часу *мінута*. Яе ўжыванне не выключае слова *хвіліна*, але яно (хвіліна) можа выкарыстоўвацца, але не ў нармаваным навукова-тэхнічным назоўніцтве.

Ствараючы сучаснае беларускае навукова-тэхнічнае назоўніцтва, трэба імкнуцца да карэкцыі і разбудовы яго шляхам пазычання назоваў, якія паўсюдна прынятыя ў мовах прамыслова і навукова развітых краінаў. Прыкладам, існуе пераклад назову *«кампутар»* — *«электронна-вылічальная машына»*, што нельга лічыць рацыянальным. Па-першае, ва ўсім свеце гэты аб'ект вядомы як *кампутар* (computer), а па-другое, ён — не «машына», але *«прыстрой»*. Да таго ж не толькі «вылічальная», бо такі ж прыстрой — *калькулятар*, але гэты, *«кампутар»*, прызначаны для выканання лагічных аперацый. І яшчэ: не абавязкова толькі «электронная», бо ёсць лазерныя схемы такіх прыстрояў. Такім чынам лагічна пазычыць назоў *«кампутар»*.

Другі прыклад неабходнай карэкцыі. У традыцыйным беларускім назоўніцтве існуе назва *«допуст»*, дарэчы, ад яго пазнейшае расійскае пазычанне «допуск». Зараз, калі ўжыванне супутных яму назоваў *«зазор»*, *«нацяг»* пад сумненне не ставіцца, узнікае намер замест калькі «допуск» рэабілітаваць назоў *«допуст»*. Між тым, беларускае *«допуст»* у нашай мове ўсталявалася як характарыстыка пэўнага недагляду, памылкі ці кары: *«не нявестка, а допуст божы!»* Але ва ўсіх еўрапейскіх мовах гэтае паняцце мае назовы з іншым, агульным для ўсіх, коранем — tolerance. Беларускае даволі старое пазычанне *«таляранцыя»* азначае пэўную спагаду аднаго боку да другога, прыкладам, патрабаванне канструктара да магчымасцей тэхнолага. І такім чынам больш дакладна адпавядае лагічнаму азначэнню паняцця згаданага тэрміну, больш дакладна, чым уласнае «допуст».

Калі ж назоў уваходзіць у практыку разам з новым паняццем, ягоная адаптацыя ў беларускім назоўніцтве не можа мець істотных перашкодаў. Прыкладам, назовы *маркетынг, клірынг, дыскета, прынтар, працэсар, алгарытм* ды шмат падобных ужо даволі шырока адаптаваны. Трэба выказаць толькі пэўную перасцярогу. У цэлым шэрагу выпадкаў традыцыйнае англійскае назоўніцтва мае для розных паняццяў назовы, што пішуцца аднолькава. Так, ў англійскай мове назоў standardization азначае як пэўную сферу дзейнасці, так і адначасова самую дзейнасць. Пры пазычанні ўзнікае неабходнасць пазначыць гэтую рознасць, каб пазбегнуць недахопу, што атрымаўся пры расійскім пазычанні — «стандартизация». Можна прапанаваць назву *«стандардызацыя»* (для назвы сферы дзейнасці) і *«стандардызаванне»* (для самой дзейнасці).

## Праблема чацвёртая. Правапіс пазычанняў

Неабходны адзіны падыход да правапісу пазычаных назоваў, які павінен забяспечыць найбольш дакладнае захаванне назову ў мове, адкуль тэрмін пазычаны, вядома, з неабходнай карэкцыяй на асаблівасць беларускага вымаўлення, на ступень асвоенасці назову, на існуючыя аналагічныя назовы. Аднабаковая прывязанасць беларускага назоўніцтва да расійскага правапісу — з»ява немэтазгодная, а нават шкодная. Тая ж назва «стандард» ва ўсіх еўрапейскіх мовах пішацца праз д. Толькі ў расійскай мове, куды ён трапіў праз вусную нямецкую мову, дзе д вымаўляецца амаль як т, назоў «стандарт» пішацца праз т. Гэтая памылка перанесена ў беларускі правапіс.

Тое ж можна сказаць і пра пазычаныя «мэтар», «сэкунда», «дакумэнт», якія пішуцца «метр», «секунда», «дакумент». Няма логікі ў напісаннях: «палімер», але «поліэтылен» «палітэхнікум», але «політэхнічны», «прынтар», але «дэкордэр», а нават «дызайнер». Вядома, некаторыя праблемы правапісу пазычанняў былі б неістотнымі пры ўжыванні беларускай лацінкі.

---

**Сымон БАРЫС**

*Матэрыялы да слоўніка «Беларускія імёны»*

# Як у нас клічуць?

*Мужчынскія імёны*

*(Працяг)*

**Засіма.** Зосима (грэч.) — жыццёвы. Вытв.: Засімка, Зосьцік, Застук, Зосцісь, Зосьцём. Імяніны пр.: 12, 17, 30.04; 17, 21.06; 2.07; 21.08; 2, 11.10; 20.11. Імя па бацьку — Засімавіч, Засімаўна.

**Захар.** Захарь, Захария (яўр.) — памяць гасподняя. Вытв.: Захарка, Захарачка, Захарчык, Захарык, Захар»яш. Імяніны: пр. 21.02; 6.04; 16, 18.09; 10, 18.12: кат. Захарыя — 22.03; 5.11. Імя па бацьку — Захаравіч, Захараўна.

**Збігнеў.** Збигнев (слав.). Імяніны кат: 17.02; 17.03. Імя па бацьку — Збігневіч, Збігнеўна.

**Здзіслаў.** Здислав (слав.). Вытв: Дзісь, Слава. Імяніны кат.: 3, 29.01; 28.11. Імя па бацьку — Здзіслававіч, Здзіславаўна і Здзіславіч, Здзіслаўна.

**Зінь, Зіновій.** Зиновий (грэч.) — той, які жыве богаўгодна. Вытв.: Зінон, Зінёк. Імяніны: 10.01; 12.02; 16.03; 23, 25.04; 1, 11.05; 10, 16, 19, 30.09. Імя па бацьку — Зіневіч, Зінеўна і Зіноўевіч, Зіноўеўна.

**Змітра.** Дмитрий (грэч.) — той, які мае адносіны да багіні земляробства і ўрадлівасці Дземетры. Разм.: Дзмітра, Мітрый. Вытв.: Зміцер, Змітрок, Змітрук, Змітрым, Змітрык; Міця, Міцька, Міцечка, Міцюк; Дзіма, Дзімка, Дзімачка, Дзімчык, Дзімок, Дзімуля. Імяніны: пр. 24.02; 1, 5.04; 1, 5, 16.06; 6.07; 22.08; 24.09; 4.10; 8, 10, 28.11; кат. Дзімітр 26.10. Імя па бацьку — Змітравіч, Змітраўна.

**Зот.** Зотик (грэч.) — жыватворны, ажыўляючы. Вытв.: Зоцік, Зоцічак. Імяніны: 5, 12.01; 1.05; 4, 26.09; 3.11. Імя па бацьку — Зотавіч, Зотаўна.

**Зыгмусь, Зыгмунт.** Сигизмунд (ст. герм.) — перамога і абарона. Імяніны кат. 2.05. Імя па бацьку — Зыгмусевіч, Зыгмусеўна і Зыгмунтавіч, Зігмунтаўна.

**Зыдар, Сідар.** Исидор (грэч.) — падарунак багіні Ісідоры. Вытв.: Сідзік, Сідук, Сідзісь, Сідар, Сідарка, Сідарок, Сідорык, Сідорка. Імяніны: пр. 21.01; 20, 27.05; 19.07; кат. Ізыдар: 2.01; 5.02; 4.04; 10, 15.05; 14.02. Імя па бацьку —Зыдоравіч, Зыдораўна і Сідаравіч, Сідараўна.

**Зянон.** Зенон (грэч.) — Зеўсаў; боскі. Вытв.: Зэнік, Зецік, Занук, Занцісь, Зэнусь, Зэнак, Зэнька. Імяніны: пр. 20.05; кат. 14.02; 12.04; 23.06; 9.07; 22.12. Імя па бацьку —Зянонавіч, Зянонаўна.

**Іван.** Иоанн (яўр.) — Боская Ласка, дарунак Божы. Вытв.: В: ня, Ванёк, Ванечка, Ванюха; Іванёк, Іваня, Іванок, Іванік, Іванюк, Іванька, Іваш, Івашка, Іванюта, Івась, Івасёк, Іваська. Імяніны: пр. 20.01; 8.02; 7.06; 7.07 (усяго болей за 60 разоў на год); кат. Ян 5.01; 24.06 (усяго 39 разоў). Імя па бацьку — Іванавіч, Іванаўна.

 

# Каб засталася спадчына

***Перабраўшыся ў новае памяшканне, мы адразу вырашылі пазнаёміцца са сваімі суседзямі. Пачалі з тых, хто побач. А гэта — Дзяржаўная гісторыка-культурная экспедыцыя па выратаванні помнікаў гісторыі і культуры Беларусі ў раёнах, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Прапануем гутарку нашага карэспандэнта з кіраўніком ГКЭ кандыдатам гістарычных навук М.М.Філістовічам.***

**— Міхаіл Мікалаевіч, вядома, адразу пасля аварыі на ЧАЭС найперш вырашаліся праблемы выратавання людзей, а пра гісторыка-культурную спадчыну тады наўрад хто думаў. Калі ўсё ж узяліся вырашаць і гэтую праблему?**

— Сярод пацярпелых рэгіёнаў наша рэспубліка была ці не першай, дзе пачалі клапаціцца пра гэта. У сакавіку 1991 года беларускі ўрад прыняў пастанову аб стварэнні спецыялізаванай арганізацыі — Дзяржаўнай гісторыка-культурнай экспедыцыі па выратаванні помнікаў гісторыі і культуры Беларусі ў рэгіёнах, пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Былі распрацаваны асноўныя напрамкі яе дзейнасці, а таксама пастаўлена мэта прыцягнуць да гэтай справы навукоўцаў і іншых спецыялістаў і ў выніку выдаваць кампетэнтныя рэкамендацыі міністэрствам, ведамствам, мясцовым органам улады, як трэба абыходзіцца з тымі ці іншымі канкрэтнымі аб»ектамі.

**— Штат сталых супрацоўнікаў вялікі?**

— Не. Начальнік экспедыцыі, яго намеснік, які адначасова з»яўляецца загадчыкам навуковага аддзела, два спецыялісты і бухгалтар. У нас ёсць таксама супрацоўнікі, якія пастаянна жывуць і працуюць у Гомелі і Магілёве. Вызначыўся круг прыхільнікаў і адначасова памочнікаў у гэтай справе. Перш за ўсё Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, археалагічныя цэнтры Гомельскага універсітэта і Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, Інстытут «Белпраектрэстаўрацыя», Інстытут гісторыі і Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук. У нас з імі цеснае супрацоўніцтва. Мы фінансуем спецыяльныя праграмы, якія рэалізуюцца іхнімі сіламі па нашаму заказу.

**— Які быў крытэрый для адбору раёнаў, дзе працуе экспедыцыя?**

— Аб»ектамі для нашай працы сталі тыя раёны, адкуль адсялялі людзей. У тых мясцінах налічваецца звыш 3,5 тысячы аб»ектаў гісторыка-культурнай спадчыны. Мы стварылі банк дадзеных па кожнаму раёну. Найперш нас цікавяць нерухомыя помнікі. Гэта вельмі багатая археалагічная спадчына. У тых раёнах ёсць шмат курганных могільнікаў, гарадзішчаў, селішчаў і г.д. Цяпер усе яны зарастаюць у адселеных зонах. Раскопкі там весці нельга. Але можа стацца так, што з цягам часу мы іх нават не знойдзем. Таму паставілі перад сабой канкрэтную задачу: перш-наперш абследаваць усе, нанесці на карты, зрабіць на іх пашпарты, а сабраную інфармацыю разам з картамі і праектамі давесці да кожнага раёна і нават сельскага Савета. Такую працу мы ўжо правялі па дзевяці раёнах. Сёлета плануем закончыць аналагічную работу па шасці раёнах Магілёўшчыны і працягваць яе на Гомельшчыне. На кожным археалагічным помніку будзе пастаўлены адпаведны знак, які засведчыць, што аб»ект ахоўваецца дзяржавай.

**— А як з архітэктурнымі помнікамі? Трэба ж неяк прадухіліць іх далейшае разбурэнне ў натуральных умовах. Ды і абараніць ад вандалізму, ад зладзеяў.**

— Архітэктурных помнікаў у раёнах, дзе мы працуем, налічваецца каля 40. Праводзіць іх рэстаўрацыю ў адселенай зоне не мае сэнсу. Таму стаіць пытанне аб іх кансервацыі. Мы, у прыватнасці, фінансуем праект у адселенай вёсцы Вылева Добрушскага раёна. Там знаходзіцца царква — помнік драўлянага дойлідства мінулага стагоддзя, і ёсць намер перанесці яе ў чыстую зону. Таму мы прафінансавалі гэты заказ і папрасілі Інстытут «Белпраектрэстаўрацыя», а таксама яго Гомельскі філіял зрабіць па магчымасці поўнае даследаванне аб«екта, каб можна было перанесці не проста пабудову, а аднавіць помнік з усімі яго мастацкімі і архітэктурнымі каштоўнасцямі.

**— Нас таксама цікавіць, што станецца з духоўнымі каштоўнасцямі ў пацярпелых раёнах? Адсяляюцца на новыя месцы жыхары, а што будзе з іх моўнымі, фальклорнымі багаццямі?**

— Яшчэ ў 1993 годзе на 800 з лішкам папоўніўся фонд зафіксаваных твораў народнай творчасці. Увогуле фальклорна-этнаграфічная спадчына — гэта асобы пласт нашай работы. На працягу трох апошніх гадоў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору вядзе ў зонах адсялення навуковыя даследаванні. Летась працавалі ў Брагінскім і Нараўлянскім раёнах. У гэтым годзе запланаваны Касцюковіцкі і Клімавіцкі. У маі 1993 года мы адкрылі першую і пакуль што адзіную ў рэспубліцы экспазіцыю выратаваных з чарнобыльскай зоны каштоўнасцей у Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН Беларусі. Яна паступова папаўняецца. Ствараюцца гісторыка-краязнаўчыя музеі ў Гомелі, Чачэрску і Краснаполлі.

**— А што з моўнымі скарбамі?**

— У нас ёсць асобная праграма па даследаванні асаблівасцей моўнай і духоўнай культуры жыхароў палескага рэгіёна, пацярпелага ад чарнобыльскай катастрофы. Тут вялікую цікавасць да гэтай справы праявіў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. Абследавалі шэраг раёнаў: Буда-Кашалёўскі, Чачэрскі, Мазырскі і г.д. У выніку чакае свайго выдання калектыўная праца на 250 машынапісных старонак. У гэтым годзе яна павінна быць выдадзена.

**— Вынік блакнотных і магнітафонных запісаў?**

— У нас ёсць праграма відэафіксацыі носьбітаў традыцый народнай культуры. Мы знайшлі гэтых людзей і ў мінулым годзе знялі каляровы відэафільм «Ці застанецца спадчына?» на сорак хвілін. Работу будзем працягваць. У гэтым годзе плануем нешта падобнае зрабіць па Гомельскай вобласці.

**— Але шмат гэтых носьбітаў традыцыйнай народнай культуры, як Вы іх называеце, пакінулі чарнобыльскую зону і рассяліліся па ўсёй Беларусі.**

— Вядзём пошукавую работу. Пакуль у Менску. Вынікі ўжо ёсць. У сталічным мікрараёне Малінаўка, напрыклад, пражывае амаль у поўным сваім складзе Нараўлянскі народны хор. Такія носьбіты, па наяўных звестках, жывуць і ў мікрараёне Шабаны. Мы звярнуліся з прапановай правесці пошукавую работу ў райаддзелы народнай адукацыі.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*Імпрэзы*

# Свята ў Строчыцах

***18 траўня ва ўсім свеце адзначаецца як Міжнародны дзень музеяў. Гэтае свята Беларускі дзяржаўны музей-запаведнік народнай архітэктуры і побыту «Менка» адзначыў пад адкрытым небам. І не таму, што яго супрацоўнікі раптам засталіся без памяшкання. Проста ўся экспазіцыя музея — сялянскія хаты і прысядзібныя пабудовы з розных рэгіёнаў Беларусі, сапраўдны ветравы млын і нават драўляная царква — знаходзіцца па-за межамі Менска — у прыгараднай вёсцы Строчыцы.***





Удзельнікамі свята сталі не толькі супрацоўнікі «Менкі», але і госці музея — работнікі іншых музеяў сталіцы, рэспубліканскіх устаноў адукацыі і культуры ды жыхары навакольных вёсак. Перад прысутнымі з кароткай прамовай выступіў дырэктар запаведніка, а потым — удзельнікі культурнай праграмы — фальклорны ансамбль «Церніца» і створаны пры музеі хор «Менка», складзены са студэнтаў Менскага вучылішча мастацтваў. Выступленні гэтых калектываў надалі святу своеасаблівы каларыт. Салістка «Церніцы», абвяргаючы прымаўку «з песні слова не выкінеш», лёгка мяняла словы народных песень, называючы ганарлівую дзяўчыну «ганаровай» і г.д. У сваю чаргу, хор «Менка» адзін за адным выконваў класічныя расійскія рамансы мінулага стагоддзя, мяркуючы, пэўна, што менавіта гэтыя песні на працягу стагоддзяў гучалі ў сялянскіх хатах па ўсёй Беларусі. Адзіным выключэннем з расійскамоўнага рэпертуару народнага хору (якога народа?) стала песня «Магутны Божа», падчас выканання якой родная краіна спевакоў замест ветлай была названа светлай.

Але, на шчасце, мала хто звяртаў увагу на падобныя дэталі. Госці «Менкі» знаёміліся з аўтэнтычнай беларускай народнай архітэктурай і ўжо дзякуючы таму адчувалі атмасферу свята. Дбаннем супрацоўнікаў музея, якія сабралі і захавалі народную спадчыну, Міжнародны дзень музеяў у Строчыцах стаў сапраўдным святам нацыянальнай культуры.

**У. Панада.**
**Фота аўтара.**

**Да ўвагі чытачоў.** На загарадную сядзібу музея-запаведніка можна даехаць з менскай аўтобуснай станцыі «Паўднёвы Захад» рэйсамі на Азярцо, Дубінцы, Гарадзішча, калгас Калініна. Прыпынак «Азярцо-2» ці «Майстэрні».



